№ 2 (4). Панядзелак 2-га Красавіка 1928 г. м. Вільня Год II.

# БЕЛАРУСКІ РАДНЫ

Пярыядычная часопісь па самаўрадавым справам нашага краю.

| РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ: | ПАДПІСНАЯ ЦАНА: | |
|---|---|---|
| WILNO, Zawalna 6 — 4. | За 3 месяцы . . . . . 2 зл. | АБВЕСТКІ ПА УМОВЕ. |
| Тэлеф. 14 35. | 1 нумар . . . . . . 50 гр. | |


## Шляхі ў нашым Краі.

Запраўды-ж калі славіцца наш край, дык пэўне-ж страшэнна дрэннымі дарогамі. Ня кажам ужо аб асабліва слаўным сваімі грэблямі Палесьсі, дзе ня можа даць рады з справай шляхоў дзеля камунікацыі ня толькі паасобная вёска ці гміна, але нават цэлы павет, дзе справа дарог — справа агульна-дзяржаўная, справа вялікай, пляновай велізарна-каштоўнай працы, зьвязана наагул з грунтоўнай зьменай усяго аблічча краю.. Але-ж наагул вялізарная частка нашых дарог існуе нібы для таго, каб імі не карыстацца... Да нашых дарог добра тасуецца ведамы расейскі анэкдот аб тым, як адзін селянін, уз'ехаўшы на мост, праваліўся ў ваду, а другі, бачучы гэта, з сэрцам кажа яму: „Дзе-ж твае вочы! Бачыш: мост, а едзеш проста на яго“...

Як гэты слаўны расейскі вясковы мост, які трэба аб'яжджаць, так і нашыя дарогі, ня бачучы, сколькі палеў — са збожам — псуецца гэткімі „аб'ездамі нашых дарог“..

Нашыя дарогі запраўды-ж такія, як быццам нам ня толькі што няма куды сьпяшыць, але быццам няма куды і езьдзіць.. Есьць вёскі, дый не адзін дзесятак, якія ў пэўны час году цалкам адрэзаны ад рэшты сьвету.

З гэтакім станам рэчаў пара ўжо і трэба распачаць рашучую барацьбу. Трэба распачаць пляновую працу над тым, каб наш край стаў нарэшце жывой, арганічнай часткай сьвету, стаў жыць поўняй свайго гаспадарчага і ўсялякага жыцьця ў жывой лучнасьці з рэштай сьвету. Першай перашкодай на шляху гэтай ўсебаковай, шмат галіннай барацьбы і працы ляжаць нашыя дарогі ў гэты сьвет, дарогі, якія трэба „аб'яжджаць“...

Чаго — якога багацьця няма ў нашым Краі! Перад усім Народ—Беларускае сялянства, якое абудзілася ад вяковага сну, пачула сабе чалавекам, як кажа наш паэта — „хоча людзьмі звацца“. Дык гэтыя „непраезджыя дарогі“ маглі істнаваць толькі дагэтуль, пакуль сялянства наша спала... Гэтыя „бездарожныя дарогі“ можа найбольш прычыніліся да захаваньня яго беларускасьці. Дзякуй ім за гэта..

Збуджаючыся да нацыянальнага жыцьця, да шырэйшай пляновай гаспадарчай працы, да вучасьця ў палітычным жыцьці, да кіраваньня сваім уласным лёсам, сялянства наша павінна лучыцца, арганізавацца, абменьвацца ўсімі сваімі вартасьцямі паміж сабой і з сьветам, вытвараючы усё глыбейшае ды мацнейшае нацыянальнае адзінства. Але і тут на перашкодзе гэтай лёгкасьці лучэньня, зьбіраньня „зямлі“ ў нацыю ды ўзаемнага абмену ляжаць нашыя непраезджыя шляхі, грэблі ды „жывыя масты, якія ня лучаць, але дзелюць“...

У нашым Краі ёсьць шмат багацьця рожнага роду. Ня кажам ужо аб зямлі ды лясох. Вось у Сарнах існуе Торфавая Дасьледная Станцыя, якая знайшла, што балотныя абшары Палесься багаты дарагімі

азотнакіслымі сálямі, з якіх можна рабіць добрае ўдабрэньне. Ёсьць на Палесьсі багатыя залежы фасфарыту, ёсьць шмат мясцовасьцяў з добрай белай глінай, вапнай і г. д. Ёсьць на Палесьсі жалезная руда. Але усе гэтыя багацьці ляжаць мёртвым капіталам у зямлі, ня служаць да гаспадарчага падняцьця Краю, акуль да іх няма пад'езду, няма шляхоў, лучачых іх з рэштай сьвету, з рынкамі, дзе на іх ёсьць спрос. Ведамы Карэц з дасканалай белай глінай, з якой ў Нямеччыне дауно-б зрабілі багацьце для ўсей ваколіцы, ў нас ляжыць ў адлежнасьці 70 кілямэтраў ад чугункі... Дык— сьпіць сабе Карэць, сьпяць сабе ў Карцы людзі, сьпіць ды сьніць аб лепшай долі ў прышласьці і слаўная карцоўская гліна.

Прынцыповая перашкода, спыняючая разьвіцьце нашага краю, гэта недахват найпрасьцейшых шляхоў камунікацыі, — пісала адна з мясцовых газэтаў. Існуючая чугункавая сець, надзвычай рэдкая — (няспоўна 2.7 кілям. на 100 квадратных кілям) будавана расейскай уладай была амаль ня выключна ў мэтах стратэгічных (ваенных), а не гаспадарчых. Дык цяпер уся гэтая сетка жалезных шляхоў мае вельмі малае значэньне для гаспадарчага разьвіцьця краю. Новыя граніцы, перарэзаўшы старыя чугункавыя шляхі, нарабілі з іх шмат зачыненых „мёртвых тупікоў“ бяз усякага руху, безкарысных для мэтаў лучэньня краю з рэштай сьвету.

Адсюль паустае першай важнасьці задача для ўсіх гаспадарчых органаў Краю — падняць голас ды прылажыць сваю руку **да перабудовы гэтай сеткі жалезных магістраляў у нашым Краі ў згодзе з яго гаспадарчымі патрэбамі.** Праца гэта можа быць выканана толькі ў дзяржаўным пляне, ды кожце, і нашыя самаўрады павінны прыняць у гэтай працы найбліжэйшае вучасьце, бо гэта справа ўсей будучыні нашага Краю, яго гаспадарчага разьвіцьця. Есьць у нашым Краі ня толькі мястэчкі, але і месты, якія ляжаць у адлежнасьці да бліжэйшай станцыі да 80 кілям. Есьць паміж вялікшымі местамі такая „камунікацыя“, што чыгункай ехаць значна даўжэй, як коньмі. Усё гэта робіць у глыбіні Краю страшэнную даражыню ўсялякага роду прывозных, нават краёвых тавараў, ды страшэнную таннасьць мясцовых прадуктаў. А гэта стварае надзвычайна некарысныя варункі гаспадарчага разьвіцьця Краю. З гэтакага паўмёртвага стану павінны самаўрады вывесьці Край. — Але першым неабходным спосабам дзеля гэтага зьяўляецца — будаваньне добрых шляхоў.

У апошнія часы і ў нашым Краі пачалі зьяўляцца, прабіваючыся усе глыбей ў яго глушы ды гушчы **навейшыя прылады руху ды камунікацыі—аўтамабілі.**

Цэлы сьцяг местаў і мястэчак маюць паміж сабой сталую аўтабусавую камунікацыю. Наколькі важны гэты новы прылад камунікацыі, дык відаць з таго, што сучасная тэхніка маторнай камунікацыі пераважна канкуруе з аднакалейным чугункавым рухам, бо кошты гэтага роду камунікацыі разам з будовай нашых пасажырскіх аўтабусаў і таварных грузавікоў у дзесяць разоў меншыя, як завядзеньне чугункавага руху на тым-жа адрэзку...

І вось гэтае разьвіцьце аўтамабільнага руху ў краі, як найтанейшага спосабу шпаркай камунікацыі, змушае да рашучага, грунтоўнага ды пляновага развязаньня шляховай справы ў найшырэйшым маштабе. І тутака ізноў як Дзяржава бяз самаўрадаў, так сама і самаўрады бяз дзяржаўнай дапамогі ды агульнага кіраўніцтва нічога зрабіць ня здалеюць.

„Мы бедны таму, што дурныя, а дурныя таму, што бедныя“, трафна казаў быццам аб нас ды нашым Краі адзін з расейскіх пісьменьнікаў. З гэтага зачараванага кола быццам няма выхаду... Нашыя багацьці ляжаць бяз руху трупам, бо няма дарог; а дарог няма за што будаваць, бо няма руху дзеля беднасьці Краю... Выхад з гэтага „чортавага кола“, з гэтага „соннага царства“ ў тым, каб зразумець ды пусьціць у рух тое першае багацьце ў кожным краі, якім зьяўляецца ў ім **чалавечая энэргія і праца...**

А калі разбудзіцца гэтая актыўная энэргія ў чалавеку, зразумеўшым вартасьць ды харство жыцьця і захацеўшым будаваць ды палепшаць гэтае жыцьцё на радасьць сабе, сваім дзеткам і ўсяму краю, тады працай сваіх рук ды розуму разбудзіць ён ды пусьціць у рух і сьпячыя ў зямлі ды на зямлі багацьці краю, зробіць дзеля гэтага руху і адпаведныя, гладкія ды трывалыя шляхі і дарогі, вашы ды чугункі...

Так рабілася жыцьцё ды багацьце паўсюдых на сьвеце. Так толькі творчай, бязупыннай працай зробіцца лепшае, сьвятлейшае жыцьцё і ў нас...

І нашыя сялянскія самаўрады — першы павадыр наш у гэтай працы...

# Абход 10-х угодкаў Незалежнасьці Беларусі у Вільні.

25 сакавіка ў Вільні абходзілася ўрачыстасьць сьвяткаваньня 10-х угодкаў абвяшчэньня Незалежнасьці Беларусі.

Па ініцыятыве Беларускага Нацыянальнага Камітэту № 2, на чале якога стаяць сэнатар Багдановіч і паслы Ярэміч і Каруза, сьвяткаваньне распачалося малебнамі: а 10 гадзіне ў касьцеле Сьв. Міхалая і 12 гадзіне ў царкве Сьв. Тройцы.

У касьцеле, а асабліва ў царкве прыйшоўшых памаліцца і адзначыць гэты ўрачысты дзень было шмат, — амаль што не ўся нашая віленская беларуская інтэлігэнцыя. Сабраліся ўсе кірункі палітычных думак і напрамкаў. Паміж іншымі былі прысутнымі сэнатар Багдановіч, паслы Ярэміч, Каруза, Стэповіч, Янка Станкевіч і Валынец. З іншых беларускіх дзеячаў: п.п. Тодар Вернікоўскі, інж. Дубікоўскі, прыехаўшы з Варшавы інж. Зенкевіч, кс. Станкевіч, а так сама вучыцелі, студэнты, вучні, прэдстаўнікі нашае прэсы — „Маланкі“, „Сялянскай Нівы“, „Грамадзяніна“, „Бел. Крыніцы“, „Бел. Дня“ і іншых.

Як у Касьцёле, так і Царкве былі выглашаны прамовы. Але прамовы былі інакшыя, чымся ў прошлым годзе, зусім не на тэму, і мала датыкаючыя ўрачыстасьці дня.

Ад 6-ай г. увечары ў памешканьні Нацыянальнага Камітэту распачалася ўрачыстая акадэмія. За прэзыдыяльным сталом былі п. Багдановіч, Ярэміч і Каруза. Сярод прысутных амаль што тыя самыя, што былі і на малебнах. Ня было відаць толькі прадстаўнікоў левых кірункаў і групы Янкі Станкевіча якія былі на спэктаклі ў Віленскай Беларускай Гімназіі.

Пасьля ўступнай прамовы сэнатара Багдановіча, віталі прысутных ад літоўцаў — прэдстаўнік Літоўскага Камітэту, ад Польскага Грамадзянства п. Л. Абрамовіч — рэдактар „Przeglądu Wileńskiego“, і ад жыдоў была прачытана тэлеграма доктара Выгодзкага.

Добрая і сільнае ўражэньне зрабіла прывітальная прамова прэдстаўніка Студэнцкай моладзі п. Станкевіча, які ў шчырых словах заклікаў нашаю інтэлігэнцыю да аб'яднаньня і згоды.

Па прывітаньнях прачытаў рэфэрат нававыбраны пасол п. Каруза.

Пасьля рэфэрату на сцэне была адыграна інсцэнізацыя вершаў Янкі Купалы „На Папасе“.

Урачыстасьць закончылася канцэртам з удзелам хору і балаячнага аркестру.

У гэты-ж вечар у Віленскай Беларускай Гімназіі быў наладжаны ўрачысты вечар. Ставілася п'еса Марцінкевіча „Пінская Шляхта“. Агульнае ўражэньне вельмі добрае. Па мастацку выпаўнілі свае ролі: Крукаў станавы прыстаў — вучыцель Віл. Бел. Гімназіі гр. Міхалевіч. Ціхан Пратасавіцкі вучань VI кл. Лукашык. Марыся яго дачка вуч. VII кл. Ст. Туркевіч. Іван Ціхай Ліпскі вуч. VII А. Таранда Грышка яго сын вуч. VIII кл. Я Хвораст. Цімох Альпінскі вуч. VII кл. Бакач. Базыль Сташкевіч вуч. VI кл. Ворэпін Харытон. Куторга — артыста Л. Замэцкі. Дзесяцкі — вуч. VI кл. А. Жабінскі і 10 іншых асоб, як акалічная шляхта. Заўважывалася толькі ў некатарых артыстаў неадпаведная падгатоўка роляў, што зьяўляецца мінусам агульнага ўражаньня. Але на найбольшую ўвагу заслугоўваюць ў гэтым вечары выступы артысткі сьпеву А. Зубовіч, Чаруючым сваім сьпевам якая выклікала воплескі на ўсей салі, ў канцы вечара вучнёўскі хор пад кіраўніцтвам гр. Шырмы, які выканаў наступныя песьні „Краіну Родную“ муз. Тэраўскага „Зорачкі“ „Ой ты вецер“ і „Ручаёк“.

# Новы Сойм і Сэнат.

## Сойм у 1928 г. і 1922 т.

| | 1928 г. | — | 1922 г. |
|---|---|---|---|
| Блёк Супрац. з Урадам . . | 137 | манд. | — |
| Эндэкі — (Z. L. N.) . . . . | 37 | — | 119 |
| Хадэкі і Пяст . . . . . . . . | 33 | — | 114 |
| Вызваленьне . . . . . . . | 37 | — | 49 |
| Stronnictwo Chłopskie . . . | 21 | — | — |
| Стапіньскі . . . . . . . . | 3 | — | 2 |
| Оконь . . . . . . . . . . | 1 | — | 4 |
| N. P. R. . . . . . . . . . | 8 | — | 18 |
| Блёк Меншасьцяў . . . . | 57 | — | 89 |
| P. P. S. . . . . . . . . . | 63 | — | 42 |
| Расейцы . . . . . . . . . | 1 | — | 1 |
| Бел. Сял. і Раб. (Янкі Ст). . | 2 | — | — |
| Укр. Сац. . . . . . . . . | 9 | — | — |
| Укр. Парт. Працы. . . . . | 1 | — | — |
| Сельроб . . . . . . . . . | 5 | — | — |
| Грамада . . . . . . . . . | 4 | — | — |
| Камуністы . . . . . . . . | 5 | — | 8 |
| Разам. | 444 | — | 444 |

## Сэнат у 1928 г. і 1922 г.

| | 1928 г. | — | 1922 г. |
|---|---|---|---|
| Блёк Супрац. з Урадам . . | 49 | — | — |
| Эндэцыя . . . . . . . . . | 9 | — | 41 |
| P. P. S. . . . . . . . . . | 10 | — | 7 |
| Пяст і X. D. . . . . . . . | 7 | — | 22 |
| N. P. R. . . . . . . . . . | 2 | — | 8 |
| Вызваленьне і Str. Chł. . . | 10 | — | 11 |
| Блёк Меншасьцяў . . . . | 21 | — | 27 |
| Жыдоўск. Аб'ядн. . . . . | — | — | 1 |
| Сельроб Правіца . . . . . | — | — | 1 |
| Укр. Сац. Сял. і Раб. . . . | — | — | 1 |
| Разам. | 111 | — | 111 |

## МАРШАЛКІ СОЙМУ і СЭНАТУ.

Маршалкам Сойму выбраны І. Дашынскі (P. P. S.), віцэ-маршалкамі — пас. Возьніцкі, Марэк, Домбскі, Чэмбэртыньскі і Зегайкевіч.

Маршалкам Сэнату быў выбраны праф. Віленскага Унівэрсытэту Шыманскі, віцэ-маршалкам—Глівіць (блёк сурп. з Урадам), Поснер (P. P. S.) і Халушчынскі (укр.).

## БЕЛАРУСЫ ў СОИМЕ і СЭНАЦЕ.

Да Сойму прайшлі наступныя паслы: Ярэміч, Юхневіч, Каруза, Стэповіч, Станкевіч, Валынец, Стэгановіч, Савонь, Дварчанін і Макрэцкі. Да Сэнату — Багдановіч і Рагуля.

# ГАСПАДАРЧЫ АДДЗЕЛ.

## Жывёлагадоўля.

Польшча з гаспадарчага боку гледжаньня зьяўляецца пераважна дзяржавай сельска-гаспадарчай. Ня гледзячы на ўзгляднна высокі ровень польскае абрабляючае прамысловасьці, як тэкстыльная і горная, (жалеза-стальная, вугаль, нафта і г. д.), — сельская гаспадарка адыгрывае ў дзяржаве ра шучую ролю. Перш-наперш польская прамысловасьць ня можа вытрымаць канкурэнцыі з заходнімі высока прамысловымі дзяржавамі, як Нямеччына, Англія, Амэрыка і інш., бо тэхніка якіх значна вышэйшая ад польскае, і дзякуючы чаму прамысловыя тавары гэтых дзяржаваў значна танейшыя, чым польскія. Яшчэ на ўнутранным рынку можна змагацца з заходняй канкурэнцыяй шляхам павялічаньня мыты на прывазімыя тавары. ці поўнай забароны прывозу некатарых тавараў. За тое на сьвятовым рынку мы зусім бязрадны. Вось дзеля чаго асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на сельскую гаспадарку, як на галоўную падставу дзяржаўнага дабрабыту.

Сельскаю гаспадаркаю займаюцца ў Польшчы 65% усяго насельніцтва, у той час як горнаю і вытворчаю прамысловасьцю толькі 15%, гандлем і камунікацыяй — 8%. Калі-ж паглядзім на усходнія ваяводзтвы, дык пабачым, што гэтыя сааднасіны яшчэ значней зьмяняюцца на карысьць сельскае гаспадаркі. Тутака займаюцца сельскаю гаспадаркаю ня лічачы м-та Вільні, 83%, ўсяго насяленьня, прамысловасьцяй — 6% і камунікацыяй — 4%.

Адсюль відаць, што пераважная большасьць насельніцтва Польшчы займаецца сельскай гаспадаркай, якая з кожным годам адыгрывае ў дзяржаўным жыцьці усё большую ролю, як гэта відаць з наступных лічбаў. З агульнай лічбы вывезяных за граніцу тавараў сельска-гаспадарчыя прадукты складалі: у 1923 г. 21%, 1924—42%, 1925—56%, 1926 г. — 53% і мінуўшым годзе — 60%.

Адначасова выввз прамысловых прадуктаў з кожным годам зьмяншаецца. Гэтак у 1923 годзе вартасьць вывязяных прамысловых прадуктаў складала 46% агульнага вывазу, ў 1924 г. — 30%, 1925 г. — 27%, 1926 г. — 13% і ў мінуўшым годзе прыблізна толькі як у 1926 г.

Удзел нашага краю ў вывазе гэтых прадуктаў яшчэ значнейшы. Адсюль вывозіцца галоўным чынам лес, лён, збожжа, бульба, яйкі, статак і іншыя прадукты.

У нашым краі сааднасіны вартасьці гадовай прадукцыі рольніцтва да усей прадукцыі ў 1925 г. былі гэтакія: першая складала 90% і толькі 10% прыходзілася на прадукты вытворчай прамысловасьці.

Пасьля ўсяго сказаннага ці трэба даводзіць аб тым, якое вялізарнае значэньне як для цэлае Дзяржавы, гэтак сама і для кожнага гаспадара паасобнае мае падняцьце і палепшаньне культуры сельскае гаспадаркі, якая пры найменьшай затраце капіталу і працы давала-бы найбольшы зыск. Тутака я хачу коратка застанавіцца толькі на адной з галінаў сельскае гаспадаркі, ласьне на жывёлагадоўлі, як найбольш карыснай, на якую асаблівая ўвага зьвернута за граніцай. Чэха-Славакія, Нямеччына, Галяндыя, Данія і інншыя, ня гледзячы на малую плошчу зямлі і спрыяючыя кліматычныя варункі для пасеву збожжа, ўважаюць за лепшае займацца жывёлагадоўляй, як найбольш карысным. Напрыклад Нямеччына, ня маючая досыць уласнага корму для жывёлы, ўважае за лепшае купляць корм для жывёлы за граніцай, як авёс, льняныя выжымкі, вотрубі і інш., чым прывозіць жывы статак ці мяса, сала, масла і сыры з заграніцы. Цытаньне аб транспарце гэтых прадуктаў да Нямеччыны зьяўляецца найбольшай перашкодай ў польска-нямецкіх гандлёвых дагаворах. Немцы ахвотна згаджаюцца купляць польскае збожжа, асабліва ў немолатым стане, як найбольш таны прадукт, каб ім карміць сваю жывёлу, прадукты ад якой пры вялізарным разьвіцьці гарадоў у Нямеччыне маюць вельмі добры збыт, толькі ня жывёлу. Гэткую палітыку немцы стасавалі раней да Расеі, а цяпер да Польшчы, як да свайго блізэйшага суседа, замяніўшага мейца Расеі, так што зляжылася нават прыслоўе: „Нямецкі мужык жыве на рахунак расейскаг мужыка". І гэта зусім правідлова. Расейскі ці польскі селянін пацеець над сваім кавалачкам пяшчанай ці дрыгвянай замлі, каб здадыць якісь пуд аўса ці жыта, якое прадае за безцэн, а нямецкі селянін трымае на маленькім кавалку зямлі 3—4 добрай пароды каровы на заграгічны корм, і гэтыя 4 каровы даюць у 5 — 10 раз большы зыск, чым уся гаспадарка нашага селяніна.

Гэткай сыстэмы сельскае гаспадаркі і палітыкі трымаецца Чэха-Славакія, Галяндыя, Данія і інш. Напрыклад 4-х мільёная Данія дастаўляла на сьвятовы рынак значна

больш прадуктаў жывёлагадоўлі, чым 180 міл. Расея. І у той час, як з Расеі вывозілася меньш мільёна пудоў мяса. З Галяндыі—каля 4 мік. пуд., Даніі — 5 міл. п. Малочных прадуктаў: з Расеі — 3 міл. пуд., Галяндыі — 4 міл. п., Даніі — 5 міл. п.. Канады — 7 міл. п. Толькі Злучаныя Штаты вывозілі да 40 міл. пуд. мяса, а цяпер значна больш.

Якія ж пераважнасьці і карысьці мае жывёлагадуля, што ў найбольш культурных заходніх дзяржавах ім займаюцца ў шырокім маштабе?

Перш-на перш яно не залежыць гэтак, як збожжа, ад якасьці глебы ці кліматычных варункаў. Напрыклад выпаў град, даждлівая ці сухая пагода і селянін застаўся бяз збожжа, у той час як жывёла не згіне, якая-бы пагода ня была. Праўда для гэтага трэба пашырыць тэхнічную культуру кармавых траваў і асабліва караньплодаў, як кармовыя буракі. Есьць спэцыяльныя сарты кармовых буракаў, якія добра растуць на нават на пяшчаным грунце, і даюць вялізарны ўраджай. Адзін бурак важыць некалькі фунтаў. Адна дзесяціна такіх буракаў можа пракарміць адну — дзьве добрыя дойныя каровы добрай расы і дасьць больш прыбытак, чым дзьве — тры дзесяціны аўса ці жыта, калі гэта благая зямля. Хто быў, з нашых сялянаў у нямецкай 'няволі на палявой працы, той бачыў, якія абшары там адводзяцца пад караньплоды для статку. Там амаль што няма пазьбішчаў і статак прыходзіцца карміць круглы год збожжам, кармавымі травамі і караньплодамі. Непараўнана лягчэй займацца жывёлагадоўляю ў нас пры больш значным абшары зямлі, пры наліччы пазьбішчаў. Праўда для больш пасьпешнага заняцьця жывёлагадоўляю неабходна наагул паднясьці роўні культуры. Трэба выбраць лепшую пароду рагатага статку ці сьвіней. Трэба даглядаць яго, выкарыстаць малако і г. д. Затое жывёлагадоўля пры сумесным заняцьці іншымі галінамі сельскае гаспадаркі палепшае апошнюю. даючы гной.

Па-другое жывёлагадоўля дае занятак у гаспадарцы круглы год, у той час як у нас сяляне пры сельскай гаспадарцы маюць працу толькі ўвясну ды улётак і восень, як 3—4 месяцы зімою апрача прывозу з лесу дроў нічога ня робяць. Маючы-ж жывёлу, заўсёды будзе праца па догляду за ею.

Есьць яшчэ шмат дадатных бакоў заняцьця жывёлагадоўляю, над якімі тутака ня буду застанаўляцца. Даволі адцяніць той факт, што нават у Усх. Беларусі ацанілі значэньне жывёлагадоўлі і удзяляюць яму большую ўвагу. У кантрольных лічбах Сельскае Гаспадаркі Усх. Беларусі за 1927 — 28 г. „гаворыцца:“ наша сялянства пераходзіць на больш інтэнсыўныя формы выкарыстаньня рабочае скаціны. Далей мы заўважаем узмоцнены рост кароў на 18 проц., і ў асаблівасьці тых кароў, якія даюць больш малака і маюць значэньне для малочна вытворчасьці. Так сама заўважаецца рост сьвіней, але не старае пароды, а тых сьвіней, якія павышаюць таварнасьць сялянскае гаспадаркі.

Якую частку нашае паважнай прадукцыі ў сельскай гаспадарцы займае жывёлагадоўля? У 1926 — 7 г. Яна займала 28% агульнае сельскае гаспадаркі. Разьвіцьце жывёлагадоўлі адбываецца наступным чынам: 137 міл. руб. у 1925 г., 165 міл. руб. у 1926 г., 179 міл. руб. у 1927 г., і 186 міл. руб. у 1928 г.

Гэткім чынам калі нават бальшавікі ацанілі належную вартасьць жывёлагадоўлі, як найбольш рацыянальнае галіны сельскае гаспадаркі, дык тым балей мы павінны зьвярнуць увагу. Мы павінны перастаць працаваць на нямецкага „бауэра“ (селяніна) і прадаваць яму задарма корм для статку. Няхай корміць уласным кормам ці купляе нашу жывёлу, мяса, сала, масла і сыры. Гэта абавязак радных і самаўрадаў папулярызаваць жывёлагадоўлю, высьвятляючы яго карысьць і значэньне і даючы магчымасьць палепшаць пароду жывёлы. — а.

---

## Ад чаго залежыць ураджайнасьць грунту?

Каб адказаць на гэта пытаньне, трэба перш-наперш пазнаёміцца, з якіх складнікаў грунт складаецца. Есьць такія чатыры часткі, злучаныя і грунтавыя, якія ў адсутнасьці адна ад другой ня могуць даць расьціне належнага пажыву. Дзеля гэтага і ўраджайнасьць такога грунту ёсьць слабая. Часткамі такімі ёсьць: гліна, пясок, прухніца і вапна. Кожная з гэтых частак мае рожнае значэньне ў ураджайнасьці грунту. Гліна ёсьць зусім дробным мелам земным, зернятк якога шчыльна прылягаюць самі да сябе, і не прапушчаюць вады. Дзеля гэтага па вялікіх дажджох груз гліны пераўтвараецца ў разбракшую масу. Пасьля, калі высыхае, то пад уплывам праменьняў сонца яна скарубае і пачынае трэскацца. З гэтага мы бачым, што ні ў першым, ні ў другім выпадку сама гліна не адпаведная на ураджайны грунт. Грунт глiністы будзе найлепшым тады, калі будзе мець 2 часткі гліны, а'па аднэй частцы пяску, прухніцы і вапны.

Пясок сам па сабе залічваецца да грунтаў зусім не здатных да земляробства. Але калі дзякуючы палажэньню, ён мае досыць вільгаці і хаця на 10 частак пяску будзе прыпадаць адна частка гліны, такі грунт можна залічыць да ураджайных сярэдняй. Грунт пяшчысты можа быць тады найлепшым, калі мае шмат прухніцы і ляжыць на гліне пясчыстай. Такі грунт трымае вільгаць, і латвы зусім да ўправы земляробства. За выняткам пшаніцы і буракоў тут добра ўдаюцца ўсе пасевы.

Найбагацейшым і найлепшым складнікам грунту — гэта ёсьць прухніца. Прухні-

ца, як вядома кожнаму гаспадару, паўстае, ці іначай творыцца з разлажыўшыхся г е. згнілых частак розных расьлін і іншых жывучых істотаў. Прухніца ня толькі карысна дзеля таго, што мае ў сябе шмат спажыўчых сокаў для расьлін, але яна, пры адпаведнай колькасьці паветра ў грунце, мае здольнасьць вытвараць вугальны газ. Газ гэты выдабываючыся з грунту, робіць яго мягкім і пульхным, а гэтым самым памагае карэньчыкам расьцін добра разрастацца і выцягаваць належныя сокі.

Застаецца нам разглядзіць толькі чацьвёрты складнік — вапну. Чыстая вапна зусім не надаецца да управы земляробства. Насеньня, кінутае на вапенную глебу (грунт), зараз-жа спаляецца. Але затое вапна вельмі памагае ў ураджаннасьці на грунтах цяжкіх-глiністых. Вапна робіць гэты грунт лягчэйшымі, і дае магчымасьць дастулу паветра ў ральлю. Апрача таго вапна мае здольнасьць утрымоўліваць цяплату ў грунце. Кожны бачыў, калі ўда начыньня з вапнай нальём вады, вада пачынае кіпець і вытвараецца цяплыня. Гэтак сама робіцца і ў ральлі, дзе ёсьць вільгаць і вапна, там заўсёды будзе трымацца і цяплыня.

Вапненыя грунты бываюць найлепшымі тады, калі маюць досыць гліны і прухніцы. На гэткіх грунтах хутка ўсё ўсходзіць і сьпее. З паданых вышэй прыкладаў кожны гаспадар можа сабе разсартаваць гэтыя складнікі так, каб на сваей ніве ня мець у адным мейсцу іх за шмат, а ў другім ня мець зусім. *І. Б.*

## ПЕРАД АДКРЫЦЬЦЕМ СПЛАВУ ПА НЕМАНУ.

28 сакавіка ў Міністэрстве Ральніцтва адбылася канфэрэнцыя прэдстаўнікоў Ураду і гаспадарчых сфэраў, пасьведчаная пытаньню аб адкрыцьці Нёмана ў зьвязку з распачынаючыміся польска-літоўскімі перагаворамі ў Кэнігзбэргу. Кіраваў канфэрэнцыяй мін. Ральніцтва п. Незабытоўскі. Прэдстаўнікі лясной прамысловасьці Віленшчыны інж. Крошкін і Воевудзкі ў сваіх справаздачах падкрэсьлілі неабходнасьць адкрыцьця Нёмана з адначасовым узнаўленьнем жалезнадарожнага руху. Далей абгаварывалася пытаньне аб забясьпячэньні тартакаў сырым матар'ялам. У праціўвагу чынікаў прамысловых, рупячыхся аб разьвіцьці краёвай прамысловасьці, прадстаўнікі „Centr. Zw. Ziemian" даводзілі неабходнасьць вольнага вывазу ўсялякага лясного сырцу паводле засады: прадаваць усё магчымае і як найбольш. Нарэшце прэдстаўнікі ўраду запэўнілі дэлегатаў гаспадарчых колаў, што пастуляты Віленшчыны будуць складаць у адчыняючайся Кэнігзбэргскай канфэрэнцыі вось перагавораў прадстаўнікоў абедзьвых дзяржаваў.

## СПЛАЎ ЛЕСУ ПА НЕМАНУ.

Да Коўны вярнуліся Клаўпэдзкія дэлегаты, якія вялі перагаворы аб узнаўленьні гандлёвых адносінаў з Польшчаю. Літоўская прэса падае, што прэдстаўнікі Клайпэды стараліся пераканаць польскіх лясных прамыслоўцаў у тым, што ў выпадку сплаву польскага дзерава па Нёману яно ня будзе канфіскавана на Літве. Вясною распачнецца нармальнае вадаплаўства па Нёману. Прастаўнікі Клайпэды засталіся здаволяны сваею паездкаю да Вільні.

## АДБУДОВА КРАЮ.

У бягучым годзе пастаноўлена адбудаваць ў Віленскай жал.-дарожнай дырэкцыі 5 новых вакзалаў і адрамантаваць шмат старых.

## НОВЫЯ САМАЎРАДАВЫЯ КАСЫ ПАЗЫЧКОВЫЯ.

12 сакавіка Віленскі Ваявода зацьвердзіў статут новых самаўрадавых касаў пазычковых у Ашмяне і Паставах. Ашмянскі Соймік на паседжаньні 23 лютага вызначыў на закладавы капітал сваей касы 20,000 зл. Пастаўскі Соймік вызначыў на гэтую мэту 10,000 зл.

Абедзьве гэтыя касы павятовыя маюць на мэце аказваньне ўрадовай запамогі дробнаму і сярэдняму ральніцтву, дробнай прамысловасьці і рамесьніцтву. Другім заданьнем гэтых касаў ёсьць зборка зьберажэньньняў і стварэньне ўласных рэзэрваў, бо за кожнай касай стаіць соймік з усей сваей маемасьцью і даходамі. Дзеля гэтага кожны грамадзянін можа без страху і рызыкі ўкладаць у гэтыя касы свае зьберажэньні.

## НОВЫЯ КАСЫ СТЭФЧЫКА.

У працягу мінуўшага месяца па ініцыятыве цэнтральных Spółek Rolniczych адчыняны касы Стэфчыка ў наступных мейсцох: Тварычу, (Сьвенцянскага пав.), Грабоўцу (Лідзкі пав.), Забрэзі (Валожынскі пав.), Цырыні, Морыні і Ожычках (Навагрудзкі пав.).

## УЗРОСТ ЦЭНАЎ НА ХЛЕБ і ЗБОЖЖА.

На віленскіх рынках у апошні час заўважана значная тэндэнцыя к узросту цэнаў на збожжа. За 100 кілягр. жыта плацілі 47 зл,, аўса 46 — 48, ячменю — 47 — 52. Чорны хлеб — 50 гр. кіл. Крупа, фасоль, мука падаражэлі на 20 гр. за кіл.

# Гаспадарчы раднік.

## Што рабіць у красавіку?

**ГАСПАДАРУ.** Не пазьніцца з засевам гароху, вікі, бобу, яравой пшаніцы і жыта. Засеяць авёс і ячмень, к канцу месяца садзіць бульбу. Аглядзець сенажаці, раскідаўшы кратовыя кучы. З раньнім ячменям пасеяць канюшыну. Прыгатаваць глебу пад позьні ячмень і агароды, заараць гнаі. Даглядаць ляпей валоў, праветрываць стайні і хлявы. Статак выганяць на пасьбішча а 7 г. рана і прыганяць а 6 увечары. У садзе абкапаць усе дрэвы, садзіць прысады.

**ГАСПАДЫНІ.** Куранят трымаць у цяпле. Выганяць у поле сьвіней. Сьвіню к парасятамі карміць дома. Раней адсадзіць парасят ад сьвіні і карміць асобна. Бяліць палотны. Пасьпяшыць з работаю ў агародзе. Сеяць на разсаду капусту і бручку. К канцу вечара разсажываць салату і раньнейшую капусту.

**ПЧАЛЯРУ.** Помніць аб корму галодных пчол. Калі ў вульлёх застаеецца сьмяцьцё ад сухіх ападкаў, дык іх можна выбіраць у цяплейшыя дні, пакінуўшы пчолы ў спакоі. Пчолы, якія пасьля перазімку зрабіліся слабымі, трэба даглядзець і спраўдзіць, ці ёсьць у іх матка. Пчалінае гняздо як наймеш халадзіць. Матачнік трэба ізноў назад закласьці. У адпаведную пагоду праветрываць вулей заклаўшы матачнік, каб пчолы заставаліся ў вульлі, ня вылеталі без патрэбы і ня гнілі. Пустыя вульлі выкінуць з пасекі. Для выхаду пчол за здабыткам добрая пара гэта ў палове красавіка, калі ўстановіцца пагода. Гэта найлепшы час для перагону пчол з калодаў у рамачныя вульлі.

---

# КАРЭСПАНДЭНЦЫІ.

## Ня марнуйце сваей працы.

*(в. Слабада — Паставускага пав.)*

Жаль мімавольна агартае душу, калі зыркім вокам абяжыш прастор хаця не вялікае аднае часткі нашай Бацькаўшчыны і падумаеш: які страшэнны і цяжкі крыж нёс наш бедны сярмяжнік-сялянін! Ніколі ня ведаў ён адпачынку, ніколі ня меў вольнай хвіліны ад працы. У летку пад вогністымі праменьнямі сонца праліваў ён рэкі поту пад родным загонам. У зімку ізноў у парванай сярмязе і лазовых лапцёх качанеў на траскучым марозе. А вертаючыся да хаты, ён халодны і галодны лажыўся на голай саломе, каб адпачыць некалькі хвілін ад цяжкай працы.

Чаму гэта так? Хто вінават гэтаму? Адказ ясны. Вінавата ў гэтым найбольш тая цёмная ночка, якая панавала і пануець яшчэ на нашых вёсках. Гэтая цемната вытварыла з гэтай масы народу сьляпое аружжа ў руках іншых. Дык і ня дзіва, што сьляды такой мінуўшчыны носяць выразны адбітак і цяпер. Хаця сьведамасьць народнай гушчы шмат пашырэла, але дзяржыць яшчэ панаваньне над імі цёмная ночка. Яшчэ мала ў нас салідарнасьці і зразумеласьці грамадзкай патрэбы, каб пазбавіцца сусьветнае эксплёатацыі над намі. Гэтай нашай цемнатой і незгодай ўзбагачваюцца найчасьцей нашыя ворагі. Напрыклад можна яскрава сказаць, што гэткі факт хаця-б ў вёсцы Слабадзе.

У 1926 годзе сюды прыехаў з мястэчка Ваўкалата зусім бедны жыдок і адчыніў з пачатку невялічкую крамку. Тут трэба сказаць, што да гэтага часу ў Слабадзе істнавалі дзьве крамкі мясцовых жыхараў. Ну і што-ж стала? Кожны можа дагадацца, што канкурэнцыя селяніна з жыдам выйдзе заўсёды на карысьць апошняга. Гэта самае зрабілася і ў вёецы Слабадзе. Суполка жыдоўская ў кароткім часе выціснула, прост, сялянскі гандаль з цэлага вокругу, так што гэтыя сяляне мусілі пазачыняць свае крамкі. З гэтага часу шпаркім крокам стаў разьвівацца гандаль жыдоўскі. З нікчэмнага тавару і то купленага на пазычаныя грошы, жыд гэты праз 2 гады тад разбагацеў, што ў гэтым годзе—1928 дастаў патэнт на продажу табаку, залажыў „Restauracju" і адлаў усе свае даўгі. Трудна проста выабразіць, якія грамадныя зыскі будзе мець ён ад табакі і гарэлкі, калі за 2 гады, таргуючы гузікамі ды ніткамі, ён дайшоў да таго багацьця.

Вось цяпер ніхай у кожнага паўстане пытаньне: За чыю працу так нажываюцца такія паразіты? Кожны скажа, што за сялянскі пот і сьлёзы яны набіваюць сабе кішані. А ўсё дзеля таго, што паміж намі няма салідарнасьці, што мы ня ўмеем цаніць і зужыткаваць сваёй працы. Каб у нас была згода, мы-б самі маглі залажыць свой коапэратыў, і ўсе зыскі з нашай працы пайшлі-б на нашу карысьць. Мы павінны гнаць вон такіх паразітаў жыдоў, якія ўмеюць з жывога чалавека высмоктываць крывавую працу. Мы павінны нарэшце зразумець, што ў коапэрацыі толькі ляжыць залог нашай сьветлай будучыні і эканамічнай направы нашага дабрабыту.

Дык як адзін мусім згуртавацца і арганізаваць коапэратыву, каб наша праца ня гінула марна!

*Гаротны.*

# Самаўрадавая Хроніка.

**— ІНСПЭКЦЫЯ ПАСТАЎСКАГА СТАРОСТВА.** Віленскі Ваявода п. Рачкевіч ў таварыстве з дыр. Работ Публічных і Камэндантам Ваяводзкай Паліцыі выканаў 7. III. інспэкцыю Пастаўскага Староства. Пан Ваявода выбраў мейсца на будову новага гмаху пад Староства ў Паставах, а затым зацьвердзіў праэкт размяшчэньня ў ім урадаў, далей разглядзеў справы разбудовы школаў і дарогаў Староствам, а так сама ўрэгуляваў выплаты розных залегласьцяў па будове паказных глінабітных дамоў.

**— РЭГІСТРАЦЫЯ ЗАСТАЎНЫХ ЛІСТОЎ Б. РАСЕЙСКІХ ДВАРАНСКІХ і КРЭСЬЦЯНСКІХ БАНКАЎ.** Распараджэньнем Міністра Фінансаў ад 14 лютага 1928 г (Dziennik Ustaw Nr. 29) вызначана рэгістрацыя застаўных лістоў б. Дваранскага і Крэсьцянскага. Зямельных Банкаў, знаходзячых ў пасяданьні асобаў пражываючых на тэрыторыі Польшчы, а гэтак сама належных польскім грамадзянам квіткоў на гэтыя паперы ўнесяных на ахову на тэрыторыі належнай ў сучасны час Польшчы і вывязяных з гэтае з тэрыторыі ў С. С. Р. Рэгітрацыя будзе чыніцца Краёвым Гаспадарчым Банкам і яго нымі аддзеламі. Для гэтае рэгістрацыі павінны быць прэдстаўлены гэтыя каштоўныя паперы, ці квіткі, пры дэкларацыі" (у 2 экзэмплярах) у якой павінны быць указаны: 1) імя, прозьвішча і мейсца жыхарства асобы, якая хоча зарэгістраваць паперы. 2) імя, прозьвішча і мейсца жыхарства асобы — уласьніка гэтых каштоўных папераў, сэрыі і намінальная каштоўнасьць кожнай паперы аддзельна.

Апошні тэрмін да рэгістрацыі вызначаны на 15 красавіка 1928 году. Пасьля гэтага тэрміну, хто не зарэгістраваў, той трациць правы на рэгістрацыю.

**— ЗЬЕЗД СТАРАСТАЎ.** У працягу гэтага тыдня адбываўся ў Варшаве зьезд каля 80 старастаў і пераважна з ўсходніх ваяводзтваў.

Галоўным чынам разглядалася справа пажычак на будоўлю Краёвага Гаспадарчага Банку.

**— НОВЫ ПАВЕТ У НАВАГРАДЗКІМ ВАЯВОДСТВЕ.** Наваградскае Ваяводзтва апрацавала праэкт падзелу Лідзкага павету на 2 аддзельныя адміністрацыйныя адзінкі. І такім чынам будзе 2 староствы — адзін в сядзібай ў Лідзе, другі — Шчучыне.

Праэкт гэты мае ўвайсьці ў жыцьце па зацьверджаньні ягонага у Міністэрстве.

**— З ВІЛЕНСКА - ТРОКСКАГА СОЙМІКУ.** На днях адбылося чарговае паседжаньне Віл.-Трокскага Соймiку. Паміж іншымі ўхваламі ў гаспадарчых справах пастаноўлена зьвярнуцца да Міністэрства Ральніцтва з просьбай аб зарганізаваньні ў Букішках курсаў для бітонных работнікаў.

Гэтыя курсы трэба лічыць, што падымуць вагу будаўлянага промыслу і бязумоўна ўплынуць на хутчэйшую адбудову Віленшчыны.

**— З ДЗІСЬНЕНСКАГА ПАВЕТУ.** У Парафьянаўскай гміне нядаўна адбыліся выбары войта.

Стары войт п. А. Буш з новаду зьмены павятовай адміністрацыі лічыў патрэбным праверыць настрой адносна да сябе і падаўся у адстаўку.

На новых выбарах аднак-жа застаўся ізноў выбраным.

**— ЛЁС ФАЛЬВАРАЧНАЙ СЛУЖБЫ ПРЫ ВЫКАНАНЬНІ УСТАВЫ АБ РОЛЬНАЙ РЭФОРМЫ.** Міністэрства Рольных Рэформаў апрацавала праэкт распараджэньня Прэзыдэнта Рэспублікі, высьветляючы правы фальварачнай службы, трацячай працу пры прыстасаваньні пэўных пунктаў закону пры прымусовай хутарскай парцэляцыі.

Сталай фальварачнай службе тады належацца тыя самыя правы, як і пры іншай парцэляцыі, калі яна праводзіцца на іншай зямлі таго самага ўласьніка, альбо так сама атрымлівае адшкадаваньне ад Скарбу.

**— ПЧАЛЬНІЧА - ГАРОДНІЧЫЯ КУРСЫ Ў ЗАСТРАВЕЧУ і НАВАГРАДЧЫНЕ.** Стараньнем Саюзу Ральнічых Колаў у Наваградчыне і Застровечу ў канцы лютага адбыліся курсы пчаліна гараднічыя пад кіраўніцтвам інструктарак з Навагрaдку і Нясьвіжа.

На першы дзень на выклады прыбыла 40 рольнікаў, а на другі — каля 80 асобаў, што ёсьць доказам цікавасьці і папулярнасьці гэтых курсаў.

# Юрыдычныя парады.

***Запытаньне:*** Ці Ваявода можа загадаць павятоваму аддзелу звальненьне працаўнікоў Аддзелу з прычыны іх „маладаеьці і жыцьцёвай непрактычнасьці"?.

***Адказ:*** Правы Ваяводы нідзе сьцісла не абмяжаваны. У кожным выпадку, нат' калі-б' павятовы Соймік ня выпрацаваў і ня прыняў сваіх правілаў аб прыёмцы сваіх служачых і не акрэсьліў повадаў іх звальненьня — звальненьне ўрадоўца Аддзелу залежыць толькі ад самога Аддзелу. У даным выпадку, ў разе звальненьня па загаду Ваяводы, звольненым прыелугоўвае права абжалаваньня ў Міністэрства Ўнутраных Справаў, а далей у Найвышэйшы Адміністратыўны Трыбунал.

*Запытаньне*: Ці павятовая Каса Хворых мае права трэбаваць ад Сойміку зварот палову коштаў лячэньньня за хворых, упісаных у касу, якія лячыліся ў бальніцы Акружнага Хаўрусу Кас Хворых?

*Адказ*: Згодна п. III арт. 43 уставу з дн. 19 траўня 1920 г. (Dz. Urz № 44 poz. 272) павятовы камунальны хаўрус мусіць аплачываць кошты лячэньня толькі ў „szpitalach publicznych". Бальніца хаўрусу Кас Хворых, як прызначаная выключна для лячэньня ўпісаных у Касе, не зьяўляецца публічнай; і дзеля гэтага трэбаваньне Касы ў даным выпадку ня мае праўных падставаў.

*Запытаньне*: На якой падставе Соймік можа трэбаваць зварот паловы коштаў лячэньня ад крэўных, альбо ад самых заінтэрэсаваных, калі яны самастойна працуюць?

*Адказ*: Соймік мае права жадаць зварот паловы коштаў лячэньня але не ад самога хворага альбо яго крэўных бліжэйшых, а ад гміны дзе хворы жыве заўсёды. (Выясьненьне Найвышэйшага Адмін. Трыбуналу з дн. 28 III 1927 г. L. rej 1314/25). Канешне ў свой чарод мае права сьцягваць гэтыя кошты з грамады альбо і з самога заінтэрэсаванага, тасуючы дзеля правілы звароту лячэньня бедных (Устаў з дн. 29. III. 1926 г. (Dz. Urz. № 36 poz 214) і выканаўчае распараджэньне з дн. 9/IX-27 г. (Dz. Urz. № 99 poz. 861)

*Запытаньне*: Ці лаўнік можа выпаўняць абавязкі ўрадоўца Магістрату з аплатай, устаноўленай зацьверджаным штатам?

*Адказ*: Па закону (арт. 19 Уставу аб павятовым самаўрадзе) лаўнік, як Радны ня мае права займаць платных пасадаў. Аднак, калі ідзе толькі аб часовым выкананьні функцыяў урадоўца як у даным выпадку нап. бугальтэра — лаўнік можа быць вызначаны але з аплатай адшкадаваньня, прадбачанага ў § 6 распараджэньня Прэзыдэнта з дн. 30. III-24 г. (Dz. Urz. № 118 poz. 1070).

*Запытаньне*: Ці сход гміннай Рады, склікаsuccessfully 2-гі раз, ёсьць правамоцны бяз увагі на лік прысутных радных?

*Адказ*: Хоць у абавязуючых уставах і не ўстаноўлена як прынцып, што сходы, скліканыя другі раз зьяўляюцца правамоцнымі пры кожным ліку прысутдых радных; але па практыцы, каб выйсьці з цяжкай сытуацыі вызванай немагчымасьцяй сабраць сход з патрэбным кворумам — прынцып гэты тасуецца, і сходы радных паўторныя прызнаюцца правамоцнымі пры кожным ліку радных.

*Запытаньне*: Ці можа быць пасаджаны ў арэшт асоба маючая 75 гадоў, і прыгавораная да штрафу з заменай арышта, пры чым штраф ня можа быць спагнаны?

*Адказ*: Закон не прэдугледжвае магчымасьці звальненьня ад арышту па старасьці гадоў. Толькі ў выпадку хваробы, або вялікай драхласьці старца, якая не пазваляе на арышт, бо пагражае яму сьмерцяй, або пагоршаньнем яго здароўя. І ў тым і ў іншым выпадку стан здароўя старца павінен быць устаноўлены афіцыяльна доктарам.

*Запытаньне*: Ці і як гміна можа спаганяць дадатковы падатак прамысловасьці і гандлю ад асобы, ўпісанай у кнізе сталай люднасьці гэтай гміны але якая жыве ў другой гміне і там мае гандаль і плаціць падаткі, а ў сваей гміне мае куплены на выруб лес і вывозіць дзеравы?

*Адказ*: Рашаючымі ў гэтым выпадку зьяўляюцца правілы п. в. ч 3 арт. 8 уставу з дн. 2 VIII 23 г. падзел між валасьцямі выконвае Павятовы Аддзел. Дзеля гэтага з гэтым пытаньнем трэ' зьвярнуцца да Аддзелу Павятовага, і ён гэтую справу вырашыць.

# Тутэйшая хроніка.

— „ГРАМАДЗЯНІН". Замест "Беларускага Слова" пачала выходзіць новая тыднёвая беларуская часопісь „Грамадзянін" пад рэдакцыяй і выдавецтвам Тодара Вернікоўскага. Новая часопісь зьвяртае больш увагі культурна-асьветовым і гаспадарчым справам. Адміністрацыя „Грамадзяніна" паведамляе, што газэта безплатна нікому высылацца ня будзе апрача пробных нумароў, бібліятэк культурна-асьветовых арганізацыяў і сябраў камітэту па справам самаўрадаў.

— ЗАЯВЫ АБ АДСРОЧЦЫ ВАЕННАЙ СЛУЖБЫ. Усе навабранцы з 1907 г., якія будуць узяты на ваенную службу ў маі месяцы або ў чэрвені, і якія будуць старацца адсрочкі, маюць падаваць заявы аб адсрочцы такім чынам: тыя, што зьяўляюцца адзінай апорай сямьі, маюць падаць заяву ў Староства ад 15 сакавіка да ўступу ў войска. Студэнты і вучні маюць падаць заявы, пачынаючы ад 1 красавіка аж да дня ўступу ў войска.

— ЭМІГРАЦЫЯ Ў АРГЕНТЫНУ ЧАСОВА СПЫНЕНА. У зьвязку з сільным наплывам у Аргентыну эмігрантаў з Польшчы урад Аргентыны зьвярнуўся да свайго прэдстаўніка ў Польшчы з загадам спыніць выдачу візаў у Аргентыну на неазначаны час.

# Закон
## аб павятовым самаўрадзе.

### Распараджэньне Гэнэральнага Камісара Усходніх зямель, як устаў аб павятовым Самаўрадзе.

(Dz. U. Z. W. № 90 poz. 1284)

*(Працяг, гл. № 1 і 2 „Бел. Радны")*

### IV Органы павятовага Самаўрадавага хаўрусу.

Арт. 12. Органамі павятовага Самаўрадавага хаўрусу зьяўляюцца:
1) Павятовы Соймік
2) Павятовы Аддзел (Wydział Powiatowy)

## Раздел А. Аб павятовым Сойміку.

### I. Аб складзе павятовага Сойміку і яго сябрах.

**Арт. 13.** Сябрамі павятовага Сойміку ёсьць радныя і сябры Павятовага Аддзелу.

Склад павятовых Соймікаў акрэсьліваюць выбарныя ардынацыі: распараджэньне Генэральнага Камісара Ўсходніх Зямель з дня 15 сакавіка 1919 г. (Dz. Urz. Zarz. Cyw. Z. W. № 26 z dn. 6 listopada 1919 r. i z dn. 30 maja r. 1920 Dz. Urz. Z: C. Z. W. № 50).

**Арт. 14.** Радныя Павятовага Сойміку выбіраюцца на тры гады.

**Арт. 15.** Сябра Павятовага Сойміку траціць мандат з прычын:

a) утраты права быць выбраным да Павятовых Соймікаў;

b) дабравольнага выхаду;

c) ў выпадках, прадбачаных у арт. 18 і 34 гэтага ўставу.

**Арт. 16.** У выпадку ўтраты радным мандату, атрыманага з прапарцыянальных выбараў: пасрэдніх або безпасрэдніх, на яго мейсца ўступае заступнік з гэтага самага сьпіску кандыдатаў; калі ў працягу выбарнага тэрміну (з гады на данным сьпіску не застанецца заступнікаў), з бракуе больш чым 50% агульнага ліку радных, — Начальнік Акругі (Ваявода) выдае загад на падставе апошняга выбарнага сьпіску аб дадатковых выбарах; выбары гэтыя праводзяцца паводле тых самых правілаў, паводле якіх былі праведзяны і галоўныя выбары. Калі радны, які ўтраціў мандат уваходзіў у склад Сойміку з выбараў пасрэдніх, праведзеных абсалютнай большасьцьцю галасоў, тагды Начальнік Акругі (ваявода) выдае загад аб дадатковых выбарах, якія праводзяцца праз падлежачую выбарную камісію. Радны, атрымоўваючы мандат у вышэй паказаных выпадках, урадуець толькі да канца тэрміну ўрадаваньня свайго папярэдніка.

**Арт. 17.** Радныя і Старшыня выпаўняюць свае абавязкі ганарова, аднак-жа яны атрымліваюць дыэты і зварот коштаў падарожжы на моцы спэцыяльнай пастановы Сойміку. Дыэты Старшыні за паседжаньні не належацца.

Арт 18. Калі сябра Павятовага Сойміку ўваходзіць у праўныя стасункі з павятовым Самаўрадавым Хаўрусам як прадпрыемца альбо настаўшчык—ён траціць свой мандат.

**Арт. 19.** Радныя і сябры Павятовага Аддзелу ня могуць займаць становішчаў, аплачываемых праз павятовы Самаўрадавы Хаўрус, апрача становішчаў, на якія вызначае Соймік шляхам выбараў. Працаўнік Павятовага Самаўраду выбраны да Сойміку ці Аддзелу свайго павету, павінен адмовіцца ад сваёй пасады на час трваньня мандату.

## Раздел В. Аб межах дзейнасьці Павятовага Сойміку.

**Арт. 20.** Павятовы Соймік ёсьць прэдстаўнік павятовага Самаўрадавага Хаўрусу. У справах уваходзячых у межы дзейнасьц Павятовых Самаўрадавых Хаўрусаў Соймік ёсьць органам пастанаўляючым і кантралюючым.

Асабліва да кампэтэнцыі Павятовага Сойміку належаць і пастановаў яго вымагаюць наступныя справы:

1) Устанаўленьне прынцыпаў, кіраваньні маемасьцяй Паветовага Самаўрадавага хаўрусу, яго даходамі, а также ўсялякімі ўстановамі і інстытуцыямі, якія да яго належаць, або знаходзяцца ў яго кіраваньні і лёката (памяшчаньне капіталаў.

2) Прыняцьце на карысьць Павятовага Самаўрадавага Хаўрусу запісаў і даравізнаў.

3) Набыцьце, прадажа і абцяжэньне даўгамі нерухомасьці Павятовага Самаўрадавага Хаўрусу, правядзеньне пазычак.

4) Разгляд і зацьверджаньне павятовага бюджэту і выдаткаў непрадбачаных у бюджэце, ўвядзеньне ўсялякіх зьменаў у бюджэце.

5) Зацьверджаньне гадавога абрахунку, а также і гадавых адчотаў.

6) Устанаўленьне натуральных і грашовых павіннасьцяў, а также замена адных другімі.

7) Устанаўленьне на карысьць Павятовага Самаўрадавага Хаўрусу крыніцаў, даходаў, прадбачаных у гэтым уставе.

8) Касаваньне павятовых належнасьцяў, якія спагнаць стала немагчымым.

9 Устанаўленьне павятовых самаўрадавых пасадаў, касаваньне іх, а также ўстанаўленьне адпаведных штатаў.

10) Выбары сябраў павятовага Аддзелу, кантроль іх дзейнасьці, а также разгляд жалаб на сябраў аддзелу.

11) Устанаўленьне тарыфаў для камунікацыйных сьродкаў, якія ўтрымліваюцца павятовым Самаўрадам.

12) Дазвол на спыненьне працэсаў, якія вядуцца ад імя павятовага Самаўрадавага Хаўрусу, зацьверджаньне Міравых якія спыняюць спрэчкі адносна нерухомасьці, альбо сумаў, якія перавышаюць нормы, ўстаноўленыя праз Павятовы Соймік.

13) Устанаўленьне і ўтварэньне спэцыяльных сьродкаў на забезпячэньне насельніцтву павету артыкулаў першай неабходнасьці, альбо на іншыя мэты.

14) Выдача канцэсіяў на закладаньне і вядзеньне прадпрыемстваў публічнага ўжытку ў выпадках, калі выдача гэтых канцэсіяў не адносіцца да органаў дзяржаўных.

15) Выдача апініі ў справе зьмены граніцаў павету, альбо валасьцёў, уваходзячых у склад данага павету.

16) Апрацаваньне і прыняцьце рэгуляміну (правілаў) для ўласнай дзейнасьці аддзелу і камісіяў.

17) Прэдстаўленьне прапазыкі Цывільнаму Ураду Уходніх Земляў (Міністэрству Унутраных Справаў) у справах загаду, уваходзячых у межы дзейнасьці павятовых Самаўрадавых Хаўрусаў.

18 Разгляд справаў, пераданых Сойміку Уставамі і Урадовымі загадамі.

**Арт. 21.** Павятовы Соймік можа выдаваць мейсцовыя статуты (абавязуючыя правілы) ў справах уваходзячых у межы дзейнасьці Сойміку. Мейсцовыя статуты, маючыя моц закону ў межах павету, могуць устанаўляць кары за іх нарушэньні, і ні ў чым ня могуць пярэчыць гэтаму ўставу і іншым абавязуючым уставам і правілам. Мейсцовыя Статуты павінны быць зацьверджаны праз Надзорчую ўладу II інстанцыі (арт. 86), а для іх адмены давол і пастановы павятовага Сойміку.

**Арт. 22.** Павятовыя Соймікі маюць правы вызначаць камісіі, якія выбіраюцца паміж сябраў самага Сойміку, а бо паміж сяброў павятовага Самаўрадавага Хаўрусу, і перадачы гэтым камісіям на разгляд справаў, падлегаючых кампетэнцыі Соймікаў. Для разгляду дзейнасьці і адчотаў Аддзелу, асабліва справаў грашавых і рахункавых, абавязкова павінна быць выбрана пасярод радных Камісія Рэвізыйная.

(*Працяг будзе*).

# Навука і тэхніка.

## ЦУДОУНЫЯ ПРАМЕНЬНІ.

Амэрыканскі прафэсар скромны інжынэр Вільгэльм Кулідж сканструктаваў нядаўна трубку, якая можа вытрымаць каля мільёна вольтаў напругі электрычнага току. Трубка гэта мае быць складніцай гэтых электрычных праменьняў, і для будучыні адчыняе надта вялікія пэрспэктывы як для тэхнікі, гэтак і для мэдыцыны. У ягонай лябораторыі цяперака працуе цэлая армія фахоўцаў, і пад ягоным кіраўніцтвам праводзяць розныя досьлядны гэтага адкрыцьця.

У галіне дзейнасьці гэнае электрычнае трубкі робяцца цяпер рэчы, якія выдаюцца наўт для вучоных проста загадковымі.

Перад усім цэлы рэд газаў, якія да гэтага часу можна было ператварыць у цьвёрдасьці заўсёды толькі пры помачы працэсу хімічных злучэньняў, цяперака пад уплывам праменьняў з гэтае трубкі яны ператвараюцца ў цьвёрдасьці ў працягу некалькі мінутаў.

Мэталы, дык тыя папросту меняюцца раптам, і выказваюць свае асабістасьці, якіх дагэтуль ніхто і не падазраваў. Напрыклад кавалак медзі, калі яго трымалі ў блізкасьці гэнае трубкі, дык апарываў рукі, а калі зьмэрылі тэмпэратуру, да якой нагрэлася медзь, дык сьцьвердзілі, што медзь была зусім халодная, і аднак апарывала мамэнтальна кожнаю арганічнаю матэрыю.

Брыльянты, сапфіры і іншыя каштоўныя каменьня пад уплывам праменьняў з гэнае трубкі пачынаюць ясьнець нязвычайным блескам, і захоўваюць гэты блеск на некалькі гадзін калі нават спыняецца дзейства гэных праменьняў.

Бутэлька з малаком, падвешаная на дроце каля гэнае трубкі, пачынае праз некатарую хвілю гатавацца. У гэтакі спосаб можна загатаваць у некалькі сэкунд яйкі. Цяпер ужо ёсьць тэлеграф бяз дроту, тэлефон бяз дроту, нарэшце будзе і кухня бяз дроту.

Далей кухонная соль каля трубкі робіцца чорнай, а тытунь наадварот зьменяе свой коляр на белы.

Бактэрыі і мікраскапічныя стварэньні пад уплывам гэтых сільных праменьняў гінуць.

Самае дзіўнае тое, што калі паддалі вопыту жывое вуха зайца, дык усе цёмныя валасы раптам зьніклі, а праз некалькі сэкундаў пачалі расьці тоненькія белыя валаскі.

У якой меры і форме новае адкрыцьце можа прыстасавацца да мэдыцыны і прамысловасьці трудна прадбачыць, але можа стацца, што пераверне ня толькі ўсю прамысловасьць, але і ўвесь сьвет.

## МЭХАНІЧНЫ ЧАЛАВЕК.

У Амэрыцы ў галіне тэхнікі і навук усё новыя і новыя адкрыцьці.

Нядаўна інжынэр Вэнолей дэманстраваў перад групай інжэнэраў і прафэсараў свайго мэханічнага чалавека, і прысутныя былі страшэнна зьдзіўляны атрыманымі вынікамі, г. зн. розумам і спраўнасьцю гэтага чалавека-машыны. Зробляных мэханічных людзей ўжо выпушчаюць на працу на фабрыкі. Як напрыклад 3-х аддалі ўжо на службу на вадакачку і зьбірачку вады ў Вашынгтоне. Такіх станцыяў у Амэрыцы шмат і часта не хапае работнікаў дзеля абслуговываньня машынаў.

Чалавек-аўтамат дапамог у гэтым сэнсеі амэрыканцам, і ўжо заменяе жывога чалавека. Называюць яго „тэлефоксам".

Ягоная работа да практыкі прыстасоўваецца гэтак: калі зазвоніць тэлефон, дык гукі званка пры дапамозе адпаведных правадоў адгукваюцца ў аўтамаце, і ён хапаецца зараз жа за слухаўку.

Далейшая размова жывога чалавека з чалавекам-машынай ідзе па пэўнаму слоўніку. Напрыклад, калі жывы чалавек хоча даведацца ў якім стане катлы, дык ужо ведае па слоўніку колькі разоў трэба пазваніць, і гэтыя званкі пры дапамозе пэўных прыладаў высьсняюць, ці катлы ёсьць нагрэтыя нармальна, ці меньш — больш нармальнага і гэта перадаецца аўтамату, а той ужо дае пэўныя знакі ў тэлефон. І жывы чалавек, гледзячы па колькасьці атрыманых званкоў ведае, што катлы знаходзяцца ў сучасны мамэнт нагрэтыя да той ці іншай тэмпэратуры і г. д.

Гэткім чынам пры дапамозе слоўніка і тэлефона жывы чалавек можа точна і выразна даведацца ад чалавека-машыны ўсё, што дзеецца на ягонай фабрыцы.

## ШТУЧНАЕ МОРА.

У адным з амэрыкантскіх гарадоў збудавалі басэйн, да якога спрабавалі прыстасаваць прылады, якія падыймалі хвалі, як у праўдзівым мору.

Гэта было зроблена ў гэтакі спосаб: тры вялікія цыліндры па форме званка ўсовываліся і высоўываліся з вады з шыбкасьцю 18 разоў у мінуту. Рух гэты рабіўся пры дапамозе паравой машыны, якая роўным чынам служыла і да нагрэваньня вады і паветра ў залі. Прылады гэтыя былі, зразумела ўкрытыя, хвалі былі вышынёй больш мэтру, і выходзілі са схіляных берагоў басэйну, а купаючыя атрымлівалі зусім гэткую прыемнасьць, як у праўдзівым мору.

## ХАТНІ АРЫШТ.

„Цзеньнік Устаў" з дня 10. III. г. г. агласіў распараджэньне п. Прэзыдэнта Рэспублікі аб хатнім арышце. Галоўныя пастановы гэтага распараджэньня кажуць:

Арт. 1. Да § 18 Кодэксу Карнага з 1871 г. дадаецца наступнае: Суд можа ў сваім прыгавару, ці асобнай пастановай прысудзіць, каб прыгавораны на кару арыштам не даўжэйшым 7 дзён, адбываў гэтаю кару ў сваім уласным памешканьні.

Арт. 2. Прыдугледжаны ў § 246 Карнай Уставы з 1852 г. хатні арышт можа налажыць толькі ў выпадку, калі вызначаная кара ня ёсьць даўжэйшай ад 7 дзён.

Арт. 3. Хатні арышт можа прыстасаваць гэтак сама ў выпадку заступчага за грашавую кару.

Арт. 4. Падчас адбываньня кары хатняга арышту ўкаранаму не дазваляецца пакідаць свайго памешканьня, ня прыймаць адведзін без дазволу ўлады, якая налажыла гэтую кару.

Арт. 4. Калі сьцьвердзіцца, што укараны над час хатняга арышту выходзіў з свайго памешканьня, тагды адбывае ўсю кару ў арэшці публічным.

Арт. 7. Хто пад час адбываньня кары хатнім арыштам самавольна пакіне памешканьне, ці прымець адведзіны без дазваленьня прыдугледжанага ў арт. 4. — Падлегае кары арышту да 6 тыдняў.

Арт. 11. Распараджэньне гэтае ўваходзіць у жыцьцё з дня 13. III. г. года.








Выдавец — Рэдактар Я. ЯРОШ. Кіраўнік рэдакцыі Г. КАНАПАЦКІ.

Druk. J. Bajewskiego w Wilnie, ul. Mostowa 9.